

**Бізнес-клас**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-52

### Да ўвагі інвестараў

Развіццё індустрыі будаўніцтва і вытворчасці будматэрыялаў з'яўляецца адным з прыярытэтных напрамкаў эканамічных рэформ і міжнароднага супрацоўніцтва. Сёння вялікае значэнне мае прыцягненне пазабюджэтнага фінансавання разам з іншымі крыніцамі інвестыцый. З гэтай нагоды лізінгавая кампанія "Тэхінмаш" і карпарацыя "Белбуд" праводзяць адкрыты конкурс на лепшы інвестыцыйны праект у сферы будаўнічага комплексу рэспублікі.

Асноўныя патрабаванні да праекта — хуткая акупнасць (не больш як за два гады) і накіраванне інвестыцый у новыя перспектыўныя тэхналогіі. Праект-пераможца атрымае права прадстаўлення на стэндзе кампаніі "Тэхінмаш" на буйнейшай у свеце інвестыцыйнай выставе "Seetex-94", якая адбудзецца ў маі бягучага года ў Лондане.

### Курс валют

Адзіны курс валют Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь

1 даляр ЗША - 7270
1 ДМ - 4190,22
1 фунт стэрлінг. - 10928,25
1 фран. франк - 1234,32
1 швейц.франк - 4992,44
10 яп.іен - 671,64
1 эстонская крона - 523,78
1 карбованец — 27 капеек
1 літоўскі літ - 1862,19
1 латышскі лат - 12491,41
1 расійскі рубель - 3,95

### Весткі з Саюза прадпрымальнікаў

Больш як 500 удзельнікаў збярэ 7 лютага Асамблея прыватнага бізнесу Магілёўшчыны, якая адбудзецца ў першым горадзе вобласці. На парадку дня — сацыяльна-эканамічны стан гэтага рэгіёна, развіццё прыватнага бізнесу і ягоная роля ў эканоміцы рэспублікі, праблемы прыватызацыі ў вобласці і роля мясцовых Саветаў у развіцці прадпрымальнасці ў фарміраванні рынachных адносін.

***

Як паведаміў намеснік выканаўчага дырэктара Фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў Г.М.Атапін, рашэннем Міністэрства фінансаў рэспублікі і Планава-бюджэтнай камісіі фонду выдзелена на бягучы год 3 мільярды рублёў, што яўна недастаткова. У прыватнасці, Фонд фермерскай гаспадаркі атрымаў 32 мільярды. Тым не менш Фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў мае шанц на атрыманне дадатковых сродкаў у тым выпадку, калі актывізуе дапамогу прадпрымальнікам-удзельнікам малой прыватызацыі пры набыцці аб'ектаў, перш за ўсё камунальнай гаспадаркі, у прыватную маёмасць.

**Малая прыватызацыя: занятак трэці.**

*Пачатак у №№ 10, 12.*

### Як малая прыватызацыя ўплывае на змены цэн?

Сама па сабе прыватызацыя не выклікае рост цэн. Працэс росту цэн і гіперінфляцыі адбываецца сёння ў выніку правядзення іншых урадавых праграм, рэалізуемых адначасова з прыватызацыяй. У прыватнасці, урад прадаўжае аказваць падтрымку стратным дзяржаўным прадпрыемствам. У выніку адсутнасці дастатковых бюджэтных сродкаў урад вымушаны друкаваць больш грошай, што выклікае рост цэн. На жаль, узровень заработнай платы часцей за ўсё адстае ад росту цэн.

У мінулым дзяржава субсідзіравала вытворчасць большасці тавараў першай неабходнасці. У выпадку субсідый назіраецца першапачатковы рост цэн. Аднак ва ўмовах рыначнай эканомікі высокі спажывецкі попыт на тавары, такія, напрыклад, як добрыя зімовыя боты, прывядзе да павелічэння іх вытворчасці і, у выніку, зніжэння цэн. Гэта адбываецца з-за імкнення прыватных уласнікаў атрымаць прыбытак і паставіць неабходную спажыўцу прадукцыю. У выпадку высокага попыту на добрыя боты прыватныя ўласнікі захочуць прадаць большую колькасць ботаў для атрымання большага прыбытку. Такім чынам, уласнік звернецца да прадпрыемства-вытворцы з прапановай аб павелічэнні выпуску ботаў. Калі зроблена дастатковая колькасць тавару — пакупніцкі попыт будзе задаволены, і цана пачне падаць.

**СКРЫЖАВАННЕ**

# У адным мяшку,

## або Карова, карова, дай... бензіну

☐ **Мікола КАПЫЛОВІЧ**

*Зусім нядаўна на вёсцы вельмі ж хацелі вызначыць, што лепш — калектыўная гаспадарка ці фермерская. Колькі было прамоў, колькі спрэчак! А атрымалася: дарэмна спрачаліся. Не туды мы глядзелі, не адтуль чакалі напасці. Сёння тыя і другія сядзяць у адным мяшку, які ўсё цясней завязваецца.*

Цяпер як аднаасобнікам, так і перакананым калектывістам трэба рабіць іншы выбар — чым наогул займацца. Калі будзеш толькі араць і сеяць — загінеш, пойдзеш жабраваць. Цэлыя галіны аказаліся нерэнтабельнымі. Ужо пазбавіліся ад усякіх бройлерных фермаў і цэхаў, птушкагадоўлі. Амаль поўнасцю перасталі будаваць, купляць новую тэхніку. Стаўку зрабілі быццам бы на зерне, мяса, малако. Ужо тут, маўляў, не прамахнёмся. Не паспелі апамятацца, як хвалі рыначнага шторму пачалі захліставаць і гэтыя астравы. Ну ніяк сялянскай працай нельга звесці канцы з канцамі. Фермерам — лягчэй, вольныя ж людзі. Адны перабіваюцца з хлеба на квас, другія кінуліся ў камерцыю, хапаюцца за ўсякія рамёствы. Нават спекулююць бензінам.

Цяжка калгасам. За спінаю старшыні жывыя людзі. І разлічваць на канец свету ён не можа. Там ратуюцца на свой страх і рызыку. Хто дошкі пілуе на продаж, хто тушонку вырабляе, хто рыбу гадуе або прадае машыны і трактары. А ёсць такія, што і наогул на ўсё махнулі рукою. Жывуць адным днём. У эканоміцы ж ёсць законы, якія нельга аніяк абысці, пераскочыць.

Ну колькі разоў трэба даводзіць, што купец не будзе гандляваць сабе на шкоду, што вясковец не будзе гадаваць бычка, калі няма ад яго ніякай выгады. Не, нібы гарохам аб сцяну! Не радзеюць шэрагі разумнікаў, якія шукаюць усё новыя магчымасці намазаць чужое масла на свой хлеб.

Лягчэй за ўсё гэты фокус правесці з селянінам. Яго заўсёды ў нашай краіне лічылі дурнем. Працаваў задарма, у турму ішоў за каласкі і пакінутую на полі бульбіну. Зараз іншы час — дэмакратыя, воля. Ідзём у рынак. Прыватызуй што хочаш, прадавай усё, што можаш. А вакол калгаснага двара і камандныя платы захавалі, і вартаўнікоў не чапаюць.

І што ж? Пагулялі нядоўга. Зараз адны прадаць не могуць, бо другім купіць няма за што. Зачыняй крамку, канец змычцы горада з вёскай. Затое сёй-той паспеў легкавікоў нахапаць, дач набудаваць. Справа гэтая ўжо мінулая. Не варта было б пасля бойкі махаць кулакамі, калі б не чакалі наперадзе яшчэ большыя бойкі і непрыемнасці. Тут хаваць няма чаго: дайшлі да ручкі. Што рабіць, як далей быць, нашы аракулы-дэпутаты, можа, і растлумачаць: рэцэптаў — безліч, абяцанняў — поўны кош. Але я, старая варона, агароднае пудзіла за жывога чалавека не прыму. Хаця парытэт цэн, ільготнае крэдытаванне, даўно абяцаныя датацыі на важныя праграмы — гэта, думаю, адладзіцца і прытрэцца, жыццё прымусіць. Але ёсць "бульдозер", які безупынна суне перад сабою вал зямлі і вось-вось пахавае пад ім селяніна. З галавою.

Поўная нявыкрутка ў жыцці калгасніка і фермера — паліва. Асабліва ў жніво. Па-першае, цэны на яго несусветныя, па-другое, заўсёды яго не хапае. Загадзя не зробіш запас — нельга надоўга замарозіць вялікія сродкі і залезці ў крэдыты. Іншыя прадпрыемствы ўжо не могуць купіць мазуту для кацельняў. Ды і ўся краіна сядзіць у фантастычных пазыках у энергетыкаў — нафтавікоў, газавікоў, электравытворцаў. Гэта яшчэ толькі кветачкі — ягадкі будуць. Вунь газавая сталіца Надым чхнула — у нас тэмпература падскочыла. Ну, а нафтавая сталіца Цюмень калі хутка зноў выкіне прэтэнзіі, дык праглыне нас з вантробамі.

Глядзіце. Мы сёння плацім за літр дызпаліва 180 рублёў, а закупачная цана літра малака — 84. З далёкіх ферм затраты ўжо на перавозку з'ядаюць увесь прыбытак ад продажу. Тут нават падваенне закупачных цэн на сельгаспрадукцыю не выратуе. Па-першае, нафтавікі паднялі ўжо цэны на нафту да ўзроўню сусветных, па-другое, нашыя харчовыя прадукты не кожны можа купіць з-за іх дарагоўлі. Склады загружаны мясам. Зусім не таму, што мы ўжо наеліся ўдосталь — проста людзям мяса не па кішэні.

Вузел зашморгваецца на мяшку цясней і па другой прычыне. Я ўпэўнены, што сусветныя цэны на нафту, распрануўшы нас да ніткі, здабытчыкаў не зробяць шчаслівымі. Нафтавая і газавая Сібір — гэта той монстр, цмок, тая бяздонная прорва, якую мы самі некалі стварылі, калі былі ў СССР, і якая цяпер узяла нас за горла.

Мяркуйце самі. Сярод балот, вечнай мерзлаты, камарыных прасцягаў адбудаваны дзесяткі гарадоў, дзе толькі дзесятая частка насельніцтва занята непасрэдна здабычай нафты. Астатнія — чыноўнікі, упраўленцы, пенсіянеры, якім няма куды дзецца. Туды трэба завозіць за тысячы кіламетраў вялізную колькасць харчовых тавараў, вопраткі, будаўнічых матэрыялаў, тэхнікі. Да гэтага прыплюсуйце паўночную зарплату. Цюмень працуе на пракорм вялізнага рэгіёна і з пункту гледжання дэмаграфіі, а расходы аплачваем мы з вамі. Бо, акрамя здабычы нафты і газу, там няма чаго рабіць. Расія — не адзіная нафтавая дзяржава. Але ніякая краіна ў свеце, ніхто і нідзе, акрамя Расіі, не насаджаў мегаполісаў у бязводных пустынях, на вечнай мерзлаце Аляскі або на марскіх шэльфах. Там абходзяцца невялікімі пасёлкамі з усімі выгодамі для спецыялістаў, астатняе робіць тэхніка, якая не патрабуе ні цяпліц, ні небаскробаў з міжнароднымі аэрапортамі. Толькі мы ў былым СССР сагналі сотні тысяч людзей у рэгіёны, дзе дзевяць месяцаў у годзе — зіма. А цяпер вось колішнія рэспублікі былога Саюза выцягваюць "нафтавае Эльдарада" з дрыгвы, аддаючы апошнія капейкі. І выцягнуць не могуць...

Ды толькі на парожні страўнік гэтую гінучую галіну не выратуеш. І трэба вызначыць, што павінна быць наперадзе — калёсы ці конь, малако ці бензін? Або ўсё-такі раўнавага, хаця б у закупачных цэнах? Бо рынак — механізм вельмі чуйны. Калі на адну талерку вагаў кінуць пудовую гіру, дык другая паляціць чорт ведама куды. А гэтага трэба чакаць. І хутка яно прыйдзе.

**ПАШТОВАЯ СКРЫНКА**



### Ніколі не думаў, што дажыву да зняваі

Калі трыццаць год таму скончыў інстытут, шчыра верыў: жыццё цудоўнае і дзіўнае. Дарэчы, жыццёвы аптымізм у гады хрушчоўскай адлігі быў уласцівы ўсім слаям грамадства. Ён базіраваўся перш за ўсё на рэальнай перспектыве жыцця, якое развівалася па ўзыходзячай лініі.

Тады я ведаў, што ў мяне пры жаданні заўсёды будзе любімая работа, хлеб на стале і дах над галавой. Я быў упэўнены ў сваёй забяспечанай старасці і шчасці маіх дзяцей.

Зараз дзякуючы палітыканам і бізнесменам, якія імкнуцца да ўлады, развалены Савецкі Саюз, згорнута да крытычнай мяжы эканоміка, вельмі заблытана нацыянальная палітыка, пачалося рашучае наступленне на правы і жыццёвы ўзровень працоўных.

Горка і сорамна прызнаць, але... інтэлігент са стажам у трэць стагоддзя зрабіўся на старасці гадоў жабраком.

Так, я зняважаны прафесійна.

Да прыкладу, мне цяжка знайсці працу па спецыяльнасці і ўладкавацца ў гарадскую школу матэматыкам. Нікому не патрэбны мае паслугі як лектара па праблемах маралі і сацыяльнай справядлівасці. А пра дзікія формы канкурэнцыі і гандлярства надыходзячага рынку я і сам гаварыць не хачу.

Так што набытыя веды і назапашаны вопыт застаюцца незапатрабаванымі як у мяне, так і ў маіх дзяцей-інжынераў.

Да таго ж я абкрадзены духоўна.

Папярэднія духоўныя арыенціры страчаны. Новых, падобна, ніхто не шукае і шукаць не збіраецца. Бізнесмены ад культуры перасталі выпускаць кнігі класікаў, а запаланілі кніжны рынак паходжаннямі Холмса і Мегрэ, Дон Жуана і Анжалікі, графаў і тарзанчыкаў. На вокладках кніг замільгацелі ўражваючыя сілуэты сексуальных жанчын і суперменаў, маньякаў і паліцэйскіх, прадстаўнікоў поп- і рок-музыкі.

Бадай, таму я не купляю апошнім часам кніг, не хаджу ў кінатэатры, а дачытваю тамы класікаў, купленыя ў лепшыя часы застою.

Але галоўнае — я бедны матэрыяльна. У адзін момант ператварыліся ў капейкі ўсе мае тысячарублёвыя зберажэнні, прызапашаныя на старасць ці на "чорны дзень".

Зараз з-за галапіруючай інфляцыі я нават не планую дарагіх пакупак. За сваю працу атрымліваю, шчыра кажучы, грашы. А паколькі рост цэн на прадукты разы ў два апярэджвае павышэнне жабрацкай зарплаты, я і мая сям'я ледзь-ледзь зводзім канцы з канцамі.

І ўсё ж я не магу па прыкладу іншых інтэлігентаў зрабіцца карабейнікам і вывозіць апошнія тавары ў Польшчу і Расію. Як не магу зрабіцца камерсантам-перакупшчыкам і бессаромна рабаваць і свой народ, і сваю дзяржаву. Так што я застаюся хоць і жабраком, але гордым і шчырым чалавекам. Адно супакойвае мяне: я не адзінокі ў сваім жаданні. Са мной мае знаёмыя і сябры, мой пакутлівы народ. Усведамленне аднаго гэтага дапамагае мне выжыць. І з надзеяй глядзець у будучыню.

Павел БЕНЗЯРУК, г.Брэст.

### Асцярожна! Жыццё крохкае

Усе мы глыбока перажываем маральна-псіхалагічную катастрофу на фоне дрэннага матэрыяльнага становішча. Разбураны ранейшыя ідэалы, растуць спекуляцыя, злачыннасць, крадзеж, карупцыя, прастытуцыя. Усё больш пагражае Рэспубліцы Беларусь СНІД. Непапраўны ўрон нанесла аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Рэзка знізілася нараджальнасць, расце смяротнасць, самазабойствы, траўматызм, колькасць няшчасных выпадкаў. Наша грамадскасць знаходзіцца ў крытычным становішчы. Стрэсавая ўзбуджанасць яго вырасла.

Неспрыяльнасць па многіх з гэтых праблем у шэрагу краін прымусіла спецыялістаў-медыкаў САЗ вылучыць дэвіз у гэтым годзе да Сусветнага дня здароўя: "Асцярожна! Жыццё крохкае... Скончым з насіллем і неабачлівасцю".

Асабліва вялікую праблему ўяўляе наша юнае пакаленне, якое засталося без ідэалаў, маральных каштоўнасцей і кідаецца з адной крайнасці ў другую, часам уяўляючы сабой сур'ёзную пагрозу для грамадства.

Нагледзеўшыся баевікоў, парнаграфічных фільмаў, маладыя людзі становяцца бяздушнымі і небяспечнымі. Сёння нам патрэбны, як паветра, чалавечая годнасць, сумленнасць, працавітасць. Але дзе іх узяць і за якія грошы купіць?! Якая палітычная сіла або ідэя можа спыніць гэты працэс разбурэння маралі?

Трэба адцягнуць увагу нашага грамадства ад стрэсавай сацыяльнай неразбярыхі, прыдумаць нейкія гульні тыпу "Поле цудаў", якія даюць масавую, хоць бы сімптаматычную псіхалагічную разрадку. Як ніколі, патрэбна прапаганда гульнявых відаў спорту, прапаганда масавай фізкультуры і не толькі прапаганда, але і сумленныя заняткі ёй.

Перыяд застою пакінуў нам цяжкую спадчыну. Папярова-справаздачныя "мільёны фізкультурнікаў" стваралі бачнасць дасягненняў.

Да гэтага часу ў нас каля 70 працэнтаў людзей знаходзяцца на мяжы паміж здароўем і хваробай. З года ў год не памяншаюцца вялікія выплаты па лістках непрацаздольнасці, а штодзённыя нявыхады на работу з-за хвароб складаюць каля 4 мільёнаў чалавек. Толькі 15 працэнтаў нованароджаных з'яўляюцца на свет фізіялагічна здаровымі і даношанымі.

Пагражальна павялічваецца смяротнасць людзей ва ўзросце ад 45—50 гадоў, у самым прадукцыйным узросце. У 1990 годзе агульная смяротнасць на тысячу чалавек насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусь склала 10,7, у 1991 — 11,2, у 1992 — 12,4 працэнта. Разам з такім небывалым ростам смяротнасці значна паніжаўся каэфіцыент нараджальнасці. У 1990 годзе ён склаў на 1000 чалавек — 11,9, у 1991 — 12,9, у 1992 — 12,4 працэнта. Гэтыя лічбы прымушаюць нас сур'ёзна задумацца над тым, што наша грамадства знаходзіцца на краі катастрофы. І каб пазбегнуць гэтага, шлях у нас адзін — штодзённа, штогадзінна імкнуцца ўмацоўваць здароўе.

В.МЛЯВЫ, урач рэспубліканскага Цэнтра здароўя Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

**ЛІТАРАТУРНЫ КАЛЯНДАР**

## ЛЮТЫ

**2. Серада.**

75 гадоў назад (2—3 лютага 1919 г.) на першым Усебеларускім з'ездзе Саветаў прынята першая Канстытуцыя БССР, створаны Камісарыят па асвеце.

50 гадоў з дня нараджэння (1944г.) І.І.Капыловіча, беларускага пісьменніка.

**4. Пятніца.**

60 гадоў з дня нараджэння (1934) А.С.Ліса, беларускага фалькларыста і літаратуразнаўца.

**6. Нядзеля.**

80 гадоў з дня нараджэння А.А.Куляшова (1914—1978), народнага паэта Беларусі.

**7. Панядзелак.**

1934—1939 — у Вільні на беларускай мове выдаваўся часопіс беларускага таварыства "Пчала" — "Беларуская борць".

75 гадоў з дня нараджэння (1919) Р.Р.Кулініча, украінскага літаратуразнаўца і перакладчыка беларускай літаратуры.

**8. Аўторак.**

80 гадоў з дня нараджэння В.П.Таўлая (1914—1947), беларускага паэта, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

**12. Субота.**

70 гадоў з дня нараджэння (1924) А.П.Капусціна, беларускага пісьменніка.

**13. Нядзеля.**

225 гадоў з дня нараджэння І.А.Крылова (1769—1844), рускага пісьменніка, журналіста, байкапісца.

**15. Аўторак.**

Грамніцы (Стрэчанне)

**25. Пятніца.**

85 гадоў з дня нараджэння Сяргея Дарожнага (сапр. С.М.Серада; 1909—1943), беларускага паэта.

**26. Субота.**

170 гадоў назад (1824) у Маскве надрукаваны "Белорусский архив древних грамот" — першы зборнік дакументаў па гісторыі беларускіх зямель.

**28. Панядзелак.**

130 гадоў з дня нараджэння Эмы Яленскай (29.2.1864—1919), польскай пісьменніцы, збіральніцы беларускага фальклору.

Каляндар "Родны Край" 1994 г.



**ПА-СУСЕДСКУ**

### Тайнае робіцца яўным

Урад Літвы пастанавіў адкрыць сакрэтныя архівы ўсіх інстытутаў улады, усіх структур КПЛ і іншых арганізацый, якія дзейнічалі ў Літве ў часы савецкай акупацыі. Не будуць адкрытыя толькі дакументы, якія датычаць агентуры КДБ, а таксама дакументы, якія ўтрымліваюць дзяржаўную тайну, звязаныя з геадэзіяй, грамадскай бяспекай, сувяззю і г.д. Найбольш адкрытых сакрэтных дакументаў захоўваецца ў Цэнтральным архіве Літоўскай дзяржавы — былым архіве кампартыі Літвы.

### Забарона азартных гульняў

Прэзідэнт Літвы А.Бразаўскас падпісаў прынятыя сеймам папраўкі да Закону "Аб прадпрыемстве", якія забараняюць ігральныя дамы і арганізацыі азартных гульняў. На думку экспертаў, у сувязі з забаронай ігральнага бізнесу літоўскі бюджэт страціць 10-12 мільёнаў літаў (3 мільёны даляраў ЗША) штогадовых даходаў.

### Літоўская цэгла для Маскоўскага Крамля

Ратуючыся ад банкруцтва, усе літоўскія прадпрыемствы шукаюць цяпер выгадных заказаў за мяжой.

Нядаўна пашанцавала дзяржаўнаму прадпрыемству будаўнічых матэрыялаў у Віджасалісе (Вялікае Сяло, Ігналінскі раён). Яго прадстаўнікі ўдзельнічалі ў адкрытым конкурсе, які арганізавала маскоўская мэрыя на выраб вялікай колькасці спецыяльнай аддзелачнай цэглы для рэканструкцыі маскоўскага Крамля і іншых гістарычных будынкаў, і перамаглі. Аддзелачную цэглу, на вырабе якой спецыялізуецца гэтае прадпрыемства, добра купляюць і ў Польшчы. Па жаданню заказчыкаў тут падбіраюцца канфігурацыя, памеры і колер прадукцыі.

БелаПАН.

### Мяжа беднасці — сто даляраў

Паводле паведамлення Маскоўскай федэрацыі прафсаюзаў, затраты на харчаванне аднаго чалавека ўзраслі да 50 тысяч рублёў у месяц. Расходы на нехарчовыя тавары падскочылі да 40 тысяч. Комплекс паслуг павысіўся ў цане на дзве тысячы і прыблізіўся да адзнакі 18 тысяч рублёў. Паводле самых сціплых падлікаў, мінімальны спажывецкі бюджэт масквіча значна перавышае 100 тысяч у месяц.

### Разганяюць мяшэчнікаў

Гіганцкая стыхійная таўкучка паблізу Кіеўскага вакзала спыняе сваё існаванне. Паводле распараджэння мэрыі, пабудаваныя тут ларкі і кіёскі будуць знесены, а гандлёвыя рады разабраны. Жыхары Украіны, якія гандлююць з рук, будуць бязлітасна разагнаны і выдвараны з горада. Так спыніць сваё існаванне самая танная ў горадзе таўкучка, якая доўгі час падтрымлівала небагатых масквічоў таннымі прадуктамі з суседняй "самасційнай" дзяржавы.

БЕЛІНФАРМ.

**НЕРУШ**

# Бабруйскія кантрасты

☐ **Андрэй АЛЬШАНСКІ**

*Бабруйск — адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў рэспублікі... Цяжкасці эканамічнага жыцця, сацыяльная напружанасць адбіваюцца на экалагічнай абстаноўцы горада. Яе нельга ацэньваць адназначна: Бабруйск — горад кантрастаў.*

### Якую ваду спажываем?

Горад сілкуецца ад трох водазабораў і 17 асобных свідравін. Кожныя суткі яны выдаюць "на гара" да 90 тысяч кубаметраў вады. Гэтага дастаткова, каб забяспечыць усю гарадскую гаспадарку. Ёсць і рэзерв: запасы ўсіх падземных вод складаюць каля 113 тысяч кубоў у суткі. Адметна, што спажыванне пітной вады за апошні час крыху знізілася, што гаворыць аб эканоміі. У мінулым годзе, напрыклад, бабруйчане зрасходавалі каля 28,4 $м^3$ вады, у тым ліку на тэхнічныя патрэбы — 4,4 $м^3$. Зменшыліся крыху і страты гэтага важнага прадукту прыроды.

Некаторыя статыстычныя даныя, аднак, выклікаюць сумненне. Справа ў тым, што ў Бабруйску палова прамысловых прадпрыемстваў не мае спецыяльных прыбораў для ўліку спажывання вады. Так ці інакш, але аб'ём паўторнага выкарыстання вады і зваротнага водазабеспячэння складае 86 працэнтаў ад агульнага спажывання прамысловасці. Пабудаваны водазабор на рэчцы для трыкатажнай фабрыкі, аднак, з-за шматлікіх недаробак ужо два гады адкладваецца яго ўвод у эксплуатацыю. Да цяперашняга часу не вырашана пытанне аб пераводзе на тэхнічную ваду кацельняў, мясакамбіната і завода трактарных дэталяў і агрэгатаў.

Што да ачысткі сцёкавых вод горада, то тут праблем значна больш. Лакальныя ачышчальныя збудаванні прамысловых сцёкавых вод ёсць толькі на 14 прадпрыемствах. У асноўным усе асадкі вывозяцца на палігоны прамысловых адходаў. Толькі два прадпрыемствы (ВА "Бабруйскдрэў" і завод радыётэхнічных вырабаў) вяртаюць іх на паўторную перапрацоўку.

Горад расце, і зараз вельмі адчуваецца недахоп ліўнёвак. Але для іх будаўніцтва патрэбны немалыя сродкі, якіх няма ў гарадской казне. 7 ліўневых спускаў, што дзейнічаюць цяпер, адводзяць дажджавую ваду ў Бярэзіну. Толькі ў адным паўночным раёне частка сцёкаў разам з умоўна чыстымі вытворчымі сцёкамі паступае на ачышчальныя збудаванні горада. За выключэннем паўночнага раёна, нідзе не вядзецца кантроль за ліўнёўкамі.

"Балячкамі" ўсіх ачышчальных збудаванняў хварэе і Бабруйск. Здавалася б, магутнасць чатырох чэргаў ачышчальных збудаванняў (220 тысяч $м^3$ у суткі) павінна задаволіць усе патрэбы. Аднак частка збудаванняў патрабуе капітальнага рамонту. Знайшлі для гэтага сродкі, аднак іх асваенне ідзе вельмі марудна: 66 працэнтаў за бягучы год. Шмат недаробак маюць III і IV чэргі ачышчальных збудаванняў, што ўплывае на якасць іх работы, прапускную магчымасць... З другога боку, ачыстку ўскладняе тое, што сцёкавыя воды маюць павышаную канцэнтрацыю забруджвальных рэчываў, у прыватнасці, па нафтапрадуктах — у 1,6—1,7 раза, хрому — у 23 разы і г.д. Не працуе цэх механічнага выдалення вадкасці з асадкаў. Яны, а таксама глей складваюцца на пляцоўцы плошчай у 40 гектараў. Колькі гэта будзе працягвацца — ніхто ў Бабруйску не ведае.

### Дыхайце глыбей! Калі хопіць сіл...

Зніжэнне колькасці шкодных выкідаў у атмасферу не трэба расцэньваць як перамогу "зялёных". Да яе яшчэ вельмі далёка.

— У Бабруйску, як усюдна ў рэспубліцы, назіраецца зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці, спажывання энерганосьбітаў, — расказвае начальнік аддзела Дзяржкамэкалогіі Сяргей Заўялаў. — З гэтым, у першую чаргу, звязана паляпшэнне абстаноўкі. За апошнія сем гадоў выкіды ў атмасферу скараціліся на 15,5 тысячы тон, у тым ліку за 1992 год — на 9,4 тысячы. Асноўныя крыніцы забруджвання — цэц, машынабудаўнічы завод, ВА "Бабруйскдрэў"... Асабліва пакутуюць ад іх тыя, хто жыве побач.

Спецыяліст, як кажуць, мае рацыю. Лабараторныя даныя сведчаць, што пастаянна дапускаюцца выкіды ў атмасферу вялікай колькасці шкодных рэчываў, фармальдэгіду, вокісаў вугляроду, фенолу і інш. У чэрвені гэтага года, напрыклад, утрыманне ў паветры небяспечных рэчываў перавысіла санітарную норму ў 2,9 раза. А на працягу толькі мая зафіксавана 42(!) выпадкі перавышэння ўтрымання ў атмасферы дыяксіду азоту. Але гэта далёка не ўсё, бо кантроль у вялікім горадзе вядуць толькі два пасты Белгідрамета. Неабходны яшчэ як мінімум два такія пасты. Аналіз паказвае, што, нягледзячы на валавое скарачэнне выкідаў, кароткатэрміновыя "порцыі" практычна не зменшыліся.

Увогуле, толькі 39 з 71 прадпрыемстваў горада маюць на сённяшні дзень дазвол на выкіды ў атмасферу. Не зразумела ў сувязі з гэтым пазіцыя абласнога Камітэта па экалогіі і гаррайінспекцыі: яны не прымяняюць ніякіх санкцый да парушальнікаў. Неапраўдана марудна вядзецца газіфікацыя прамысловых прадпрыемстваў, хаця побач праходзіць газаправод.

Дымяць трубы і печы, атручваючы ўсё навокал, а кантралёры спяць у шапку. За бягучы год яны праверылі дзейнасць толькі 11 прамысловых прадпрыемстваў і 9 — аўтатранспартных. Складзена 12 пратаколаў на адказных асоб... І ўсё! Ці не занадта мала такога "кантролю", калі экалагічная абстаноўка не паляпшаецца?

### Каб не ператварыўся горад у звалку

Расце горад — павялічваецца колькасць бытавых і прамысловых адходаў. Першых штогод утвараецца каля 300 тысяч кубоў, другіх — 250. Акрамя таго, на тэрыторыях прадпрыемстваў захоўваецца звыш 150 тон таксічных адходаў. Невялікая іх колькасць таксама непрыкметна трапляе на палігон, куды вывозяцца цвёрдыя бытавыя адходы. Райвыканкам дазволіў некаторым прадпрыемствам часова вывозіць адходы вытворчасці ў пясчаныя кар'еры на тэрыторыі лясгаса. Аднак папярэдне тут не былі праведзены інжынерна-ахоўныя мерапрыемствы. Гэта — звычайныя звалкі. Кантроль за іх уздзеяннем на грунтовыя воды не вядзецца, як, дарэчы, і на самім палігоне.

Бабруйску даўно трэба было пабудаваць палігон для прамысловых адходаў. Але цяпер, пасля цяжкіх намаганняў, калі распрацаваны і прайшоў экспертызу праект агульнагарадскога палігона каля вёскі Вішнёўка, ужо цэлы год затрымліваецца яго будаўніцтва па адной простай прычыне — няма рашэння выканаўчай улады аб адводзе зямельнага ўчастка.

Лесапаркавая зона горада забруджваецца гаспадарча-бытавымі і прамысловымі адходамі. Іх падкідваюць гідролізны і маслазавод, гарбарны камбінат, ФАНДок, воінскія часці і інш. А новых зялёных пасадак за апошнія пяць гадоў практычна не было, за выключэннем пашырэння на 3 гектары гарадскога парку.

Інстытут геахіміі і геафізікі Акадэміі навук рэспублікі вывучаў ступень забруджанасці глебы і раслінасці горада. Выяўлена шмат кропак, дзе звышдапушчальная канцэнтрацыя шкодных рэчываў — бору, свінцу, хрому, медзі, нікелю... Хто і калі пачысціць гэтыя плямы?

Праблемы, праблемы... Не буду сцвярджаць, што пра іх не ведаюць, што яны не турбуюць гарадскія ўлады, рух "зялёных". Ёсць праграма "Экалогія", жаданне выправіць становішча. Не хапае толькі галоўнага — сродкаў, сістэмы ў рабоце і належнага кантролю з боку экалагічнай і санітарнай службаў.

Аб гэтым і шмат аб чым іншым ішла прынцыповая размова на калегіі Дзяржкамэкалогіі, дзе разглядалася пытанне па Бабруйску. Прынятае рашэнне даволі ўзважанае і абгрунтаванае. Ці хопіць сіл і настойлівасці, каб змяніць экалагічнае становішча ў лепшы бок? Час пакажа...

